Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

10-16 студзеня 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

№2 (90)

НАВАГОДНІЯ ПАЖАРЫ



чытайце на 2-й ст.

## Адным абзацам

Набірае абароты скандал у дыпламатычных колах. У Нью-Ёрку былі затрыманы за парушэнне правілаў дарожнага руху расійскі і беларускі дыпламаты, якія, па сведчанні амерыканцаў, знаходзячыся, верагодна, ў нецвярозым стане, аказалі супраціўленне ўладам. Першы сакратар Пастаяннага прадстаўніцтва РБ пры ААН Юрый Оранж, як пішуць нью-ёркскія газеты, уступіў у бойку з паліцэйскімі, "ратуючы" свайго сябра. Беларускі МЗС з гэтым не пагаджаецца і ўручыў ноту пратэсту амерыканскаму паслу ў Беларусі. Толькі за 6 месяцаў мінулага года беларускія дыпламаты, акрэдытаваныя пры ААН, атрымалі 828 квіткоў на аплату штрафаў за парушэнне правілаў дарожнага руху. Усяго ў беларускай місіі 15 аўтамабіляў.

У газеты творчай інтэлігенцыі Беларусі "Літаратура і мастацтва" ("ЛіМ") з'явіўся новы галоўны рэдактар— наш зямляк, ураджэнец Смаргоні, Уладзімір Някляеў. Яго папярэднік роды брат Ніла Гілевіча Мікола Гіль вярнуўся ў фатэль намесніка. Што за гэтым перамяшчэннем— пакажа час.

Сфарміраваны прэзідэнцкі Нацыянальны сход Беларусі пачаў сваю работу ўчора. Ад нашага рэгіёна ў яго ўвайшлі дырэктар маладзечанскай швейнай фірмы "Юнона" Вольга Іванова і старшыня Смаргонскага райвыканкома Мікалай Кавалёў.

Засталіся без работы 25 чалавек з сумеснай вытворчасці "Вілейка" у аднайменным горадзе, якая фактычна з'яўляецца падраздзяленнем Маладзечанскай мэблевай фабрыкі. Вытворчасць закрылі. З 23 мужчын, якія тут працавалі, у 21 жонкі беспрацоўныя.

Днямі ў Маскве адбылася нарада генеральных пракурораў СНД, дзе было прынята рашэнне аб актывізацыі дзейнасці па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю. Падрыхтаваны дакументы аб сумеснай дзейнасці пракуратур Садружнасці.

Лічыцца, што беднасць як з'ява яшчэ дзесяць год таму большасці грамадзян Беларусі не была вядомая. На сённяшні дзень колькасць людзей, чый прыбытак складае 60% і ніжэй мінімальнага спажывецкага бюджэту, павялічылася ў параўнанні з 1990 годам больш чым у 20 разоў і дасягнула 63% усяго насельніцтва краіны.

У хуткім часе павінен змяніцца парадак выплаты дзяржпошліны за афармленне дазволу на выезд за мяжу. А з 1 чэрвеня ўводзіцца марка для афармлення пашпарта на часовы выезд і пастаяннае пражыванне за граніцай.

У новым годзе павялічацца цэны не толькі на тавары, але і на білеты ў дзяржаўныя тэатры і канцэртныя залы, цырк.

Дзесяць гадоў таму ў Мінску адбылося пажар, у выніку якога амаль дашчэнту згарэў спарткомплекс "Працоўныя рэзервы". А 20 снежня прайшло адкрыццё нанова адбудаванага комплекса, які ўключае ў сябе некалькі спартзалаў, лёгкаатлетычны манеж, стадыён, басейн, ёсць і гатэль.

Беларускім Саюзам моладзі быў аб'яўлены конкурс "Інтэлект" для вучняў старэйшых класаў, які праходзіў у тры туры. Каб перамагчы, патрэбна было паказаць сваё добрае веданне літаратуры і гісторыі. Перамаглі 20 чалавек; яны атрымалі ўзнагароды— пуцёўкі ў "Зубраня".

## Павялічылася "мінімалка"




Што можна зараз купіць на адну мінімальную зарплату:



40 буханак жытняга хлеба, або 36 літраў малака (тлустасць - 1,5%), ці 2,5 кілаграма свініны, альбо цэлую скрыню неблагога піва (20 бутэлек).

Нямала!..

Але на дзень гэта складае каля 4.300 рублёў. Бутэлька малака ды паўбуханкі хлеба. Смачна есці!

## Наркаману— па "баяну"

*БАЯН- шпрыц (слэнг наркаманаў). Аб успышцы СНІДу ў Светлагорску "Рэгіянальная газета" паведаміла адной з першых. Праблема хвалюе і нашых землякоў. Карэспандэнт "РГ" Мікола ГАЙДУК звязаўся па тэлефоне з рэдактарам светлагорскай тэлерадыёкампаніі "Ранак" Уладзімірам КОХНАМ.*

**— Уладзімір, на Гомельшчыне газеты вучаць жыць са СНІДам!**

— Не жыць са СНІДам, а жыць разам з ВІЧ-інфіцыраванымі. Свет нічога іншага не прыдумаў. З дапамогай спецыялістаў ААН і Сусветнай арганізацыі аховы здароўя выпрацавана палітыка, якая прадугледжвае адмаўленне ад рэпрэсіўных мер у дачыненні да наркаманаў і ВІЧ-інфіцыраваных.

Пры дапамозе спецыялістаў цяпер выпрацоўваецца праграма комплекснай дапамогі "шпрыцавым" наркаманам. У Светлагорску такая праграма ўладамі прынята. Міжнародныя арганізацыі паставілі ўмовай аказання дапамогі толькі ў тым выпадку, калі да наркаманаў і інфіцыраваных на ВІЧ не будуць прымяняцца рэпрэсіі. А ў нашым горадзе спачатку была хваля патрабаванняў стварыць ці не спецыяльную зону за калючым дротам, куды б можна было выселіць інфіцыраваных.

**— Для рэалізацыі праграмы патрэбны грошы.**

— Кабінет Міністраў у свой час прыняў рашэнне выдзеліць Міністэрству аховы здароўя 20 мільярдаў рублёў для барацьбы са СНІДам. Але да Светлагорска гэтыя грошы пакуль не дайшлі. Прыйшла дапамога з Германіі і Ізраіля. Пасольства Ізраіля перадало Міністэрству аховы здароўя 26 тысяч аднаразовых шпрыцаў.



**— Калі ў Светлагорску можна будзе атрымаць бясплатна шпрыц, каб укалоцца?**

— У горадзе па рашэнню выканкома ідзе работа па арганізацыі абмену выкарыстаных шпрыцаў і голак, безрэцэптнага водпуску дымедролу, забеспячэнню наркаманаў дэзінфіцыруючымі сродкамі, продажу метадону.

**— А што такое метадон?**

— Гэта наркотык у выглядзе сухога парашку, будуць прадаваць яго, каб наркаманы не калоліся, а нюхалі.

У Светлагорску створана ініцыятыўная група, у якую ўваходзяць прадстаўнікі ўлады, царквы, медыкі, журналісты— усе, хто добраахвотна захацеў працаваць у гэтым накірунку, каб несці

*Заканчэнне на 2-й стар.*

## Патрабуюцца на работу

**Цэнтры занятасці насельніцтва паведамілі аб некаторых вакансіях на 8 студзеня.**

**Маладзечна:** швяя (50), стапяр (10), слесарсантэхнік (8), прадавец (6), газаэлектразваршчык (3). ***В. Гасцінец, 147.***

За год працаўладкавана 40% ад агульнай колькасці беспрацоўных, што стаяць на ўліку.

**Вілейка:** газаэлектразваршчык (1), станочнік (3), рэгуліроўшчык (4), бухгалтар (2), бульдазерыст (1), эканаміст (1), прадавец (10), наладчык КВПіА (4). Працаўладкавана 20%. ***Т. для давядак 54113.***

**Смаргонь:** бухгалтар (1), эканаміст (4), жывёлавод (2, даюць жыллё). ***Т. для давядак 32130.***

Наогул, вакансіі звычайна— рабочыя. На ўліку цяпер стаяць 2555 беспрацоўных. За год працаўладкавана 3520, адкрыта новых працоўных месцаў— 124, перанавучана 306 чалавек.

**Мядзел:** буфетчыца (2), афіцыянтка (1), будаўнік (2), жывёлавод (2). ***Т. для давядак 55835.***

**Астравец:** праграміст (1), эканаміст (1), юрыст (1), трактарыст (1). Працаўладкавана 48%. ***Т. для давядак 21708.***

**Валожын:** швяя (3), газаэлектразваршчык (1). ***Т. для давядак 55657.***

## Навіны

### Узор дэмакратыі

***СМАРГОНЬ. Прайшла першая пасля аб'ядніання горада і раёна ў адну адміністрацыйную адзінку сесія райсавета дэпутатаў.***

Прынята рашэнне аб прызнанні паўнамоцтваў 7 абраных у 1995 годзе гарадскіх дэпутатаў. Усяго ж у горадзе павінна было быць абрана 30. Зараз гэтых 7 далучыліся да 35 раённых дэпутатаў.

У выніку ў Смаргонскім раёне атрымаўся ўзор дэмакратыі навейшай гісторыі Беларусі: 35 дэпутатаў прадстаўляюць інтарэсы 20 тысяч выбаршчыкаў раёна, а 7– аж 25 тысяч выбаршчыкаў горада.

*Алесь ДЗЕРГАЧОЎ.*

### +600 у невялічкім пакоі

***МАЛАДЗЕЧНА. Святочным жартам можна лічыць незвычайную выставу-продаж, што ладзіла фірма "Спецтэхінструменты".***

У невялічкім офісе на сцэнах развесіла яна свой тавар– больш за сотню тэрмометраў рознага прызначэння. Работнікі фірмы ўпэўніваюць: лепшага падарунка не знойдзеце. Танна, патрэбна і, галоўнае, дакладна.

30 пакаёвых тэрмометраў паказвалі разам каля 600 градусаў. Разыходжанні– толькі на адну рыску. Білеты за прагляд на выставе не патрабавалі.

*Аддзел інфармацыі.*

### Латарэя па-астравецку

***АСТРАВЕЦ. У святочныя дні прамгандаль "Вілія" праводзіў латарэю. Ніводзін з 80 білетаў не быў бяспройгрышны. Наведвальнікі універмага ў аддзеле "Філіпс" за 8 тысяч "зайцоў" маглі паўдзельнічаць у розыгрышы.***

Сярод прызоў былі цукеркі, пячэнне з гарбатай, дзіцячыя кнігі і кнігі па хатняй кулінарыі. Сярод так званых салідных выйгрышаў быў керамічны набор і... дзве бутэлькі гарэлкі "Гародня", якія на тры білеты выйграла жанчына— засталася задаволенай. Напэўна, мужу таксама пашанцавала, бо гарэлка някепская і амаль што "на халяву".

*Ян ТАРАШКЕВІЧ.*

### Хочаш стаць журналістам?

***Рэдакцыя "РГ" сумесна з грамадскай арганізацыяй "Саната— таленавітыя дзеці" запрашае старшакласнікаў рэгіёна, студэнтаў— усіх, хто хоча паспытаць сябе ў журналісцкай справе да супрацоўніцтва.***

Асобныя матэрыялы будуць друкавацца на старонках газеты. А лепшыя карэспандэнты могуць атрымаць характарыстыкі-рэкамендацыі для паступлення на факультэт журналістыкі.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ, тэл. у Маладзечне 53841.*

### Узрост— не перашкода

***ВАЛОЖЫН. Летась пяць маладых раёна за дазволам на вяселле мусілі звярнуцца ў... райвыканком.***

Справа ў тым, што для ўступлення ў законны шлюб ім не хапала ўзросту. Дарэчы, быў у гэтай пяцёрцы і адзін прадстаўнік моцнага полу. Яго абранніцы, між тым, мінуў 21 год.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Вілейка развіталася з Ганнай Новік

Незадоўга да восемдзесят трэцяй сваёй вясны памерла Ганна Аляксееўна Новік, паэтэса, якая ўсю маладосць аддала справе аб'яднання раздзеленага дзяржаўнымі межамі народа Беларусі.

Нарадзілася Ганна Новік у сям'і каваля ў Аўгустове (цяпер тэрыторыя Польшчы), але амаль усё сваё жыццё правяла ў Варонічах на Вілейшчыне. Калі, праўда, не лічыць час зняволення ў Вілейскай турме (1936-1939 г. г.) і партызанку падчас фашысцкай акупацыі. Пасля вайны былая наймічка ўзначальвала калгас, сельсавет. І пастаянна пісала вершы, друкуючыся ў раённай газеце "Шлях перамогі", выдала зборнік "Мае вёсны". Вершы рэдка мы гутарылі з летапісцам Вілейшчыны, які па праву была Ганна Новік, чулі пажаданні поспеху газеце, а сення яе няма з намі. Але засталіся вершы, якія яшчэ доўга будуць нашымі спадарожнікамі ў радасці і скрусе.

*Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты".*

Сведчаць дакументы

# ХРОНІКА ЗЛАЧЫНСТВАЎ 1939-1941

*Працяг. Пачатак у №№28-34,37,39-41,43-51 за 1996 г.,№1 за 1997 г.*

## Спіс асуджаных у Асобай Нарадзе на 25-е снежня 1940 г. па УНКУС Вілейскай вобласці.

488. Захарэвіч Мечыслаў Стан.– 5. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
489. Захарэвіч Эдуард Герасім.– 2. 7. 40 г.– ...– ст. Котлас
490. Звідрынскі Ігнацій Іосіф.– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Поцьма
491. Замара Уладзіслаў Янав.– 19. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– Верхадурская УНКУС
492. Зотаў Мікалай Міхайлав.– 13. 7. 40 г.– ...– ст. Поцьма
493. Зендэль Рахаль Хаімавіч– 9. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Поцьма
494. Зубовіч Юльян Станіславаў.– 30. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
495. Зінкевіч Софія Адамаўна– 5. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Поцьма
496. Закрэўскі Баляслаў Стан.– 9. 7. 40 г.– ...– Жызакзонскі
497. Зянькевіч Юльян ....– 19. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
498.Заблоцкая Ірына Мечыслав.– 10. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Старадуб
499. Заблоцкая Вольга Леанідаўна– 10. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Безымянка
500. Зайніц Маркс Маісеевіч– 21. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
501. Заштоўт Алена Станіслав.– 26. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
502. Заштоўт Браніслаў Мар'ян.– 21. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
503. Зубін Антон Іванав.– 26. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
504. Завалевіч Іван Іванавіч– 26. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
505. Зубальскі Натан Цухавіч– 21. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
506. Зінкевіч Ніна Сільвестр. 10. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Поцьма
507. Зенчанка Іван Рыгор.– 27. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
508. Зенчынава Ганна Рыгор.– 27. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Карабас
509. Знорка Мікалай Іван.– 19. 8. 40– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
510. Зарэмба Ядвіга Адольф.– 19. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Поцьма
511. Зізік Марыя Восіпаўна– 27. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Поцьма
512. Зінкевіч Казімір Сільв.– 10. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Безымянка
513. Зінкевіч Францышак Сільв.– 10. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Безымянка
514. Зємба Іван Лаўрэнц.– 26. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
515. Зінкевіч Іван Мікалаев.– 10. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– Самарлаг
516. Зяленскі Міхаіл Канст.– 30. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Енісей
517. Заблоцкі Браніслаў ...–26. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
518. Звідрын Аляксандр Іванавіч– 19. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
519. Змыслоўскі Іван Франц.– 26. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
520. Здановіч Канстанцін Міхайлав.– 25. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– г. Архангельск
521. Звярко Іван ....– 25. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– г. Архангельск
522. Завадскі Антон Іванав.– 29. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
523. Зелянкевіч Міхаіл Аляксандр.– 29. 6. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
524. Зайдэнваруш Эйшэль Яфімав.– 27. 6. 40– 3 гады ВТЛ– г. Архангельск
525. Захс Шмуль Монахавіч– 27. 6. 40 г.– 3 гады ВТЛ– г. Архангельск
526. Заяц Аляксандр Васільевіч– 29. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– г. Архангельск
527. Замора Фелікс Вікенцьевіч– 20. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– г. Архангельск
528. Завадскі Рыгор Астапавіч– 28. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Ісакагор
529. Іофе Бенцаль Гіршавіч– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Карабас
530. Івашкевіч Вацлав Станіслав.– 17. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
531. Іодзіс Мадсум Вячаслававіч– 26. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
532. Іонак Людвіг Станіслававіч– 10. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
533. Ігнатовіч Зося Адамаўна– 19. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Старадуб
534. Іаневіч Антон Вікенцьевіч– 19. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
535. Іваноў Бенядыкт ....– 27. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
536. Іордан Юзэф Яўгенавіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
537. Кармазін Міхаіл Антонавіч– 19. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
538. Кісялевіч Георгій Канстанцін.– 25. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
539. Кухальскі Вікенцій Валяр'янавіч– 15. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
540. Котляр Моталь Борухавіч– 23. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
541. Кацэвіч Іосіф Ануфрыевіч– 19. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
542. Катовіч Іларыён Валяр'ян.– 13. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
543. Касцюкевіч Сямён Міхайлав.– 30. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Марыінск
544. Качан Лейб Мордухавіч– 27. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
545. Куніцкі Пётр Антонавіч– 27. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
546. Карабановіч Валерый Вікеньцевіч– 27. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
547. Крупскі Пётр Фаміч– 10. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
548. Кейка Антон Аляксандр.– 22. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
549. Куневіч Юзаф Станіслававіч– 27. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
550. Курыловіч Уладзіслаў Дамінікав.– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
551. Карвель Альяш Міхайлавіч– 19. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
552. Кузянава Альфеда Іосіф.– 5. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Поцьма
553.Карпінская Яніна Станіслав.– 13. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Поцьма
554. Казюра Фрайт Гаспаравіч– 19. 7. 40 г.– 3 гады вТЛ– ст. Котлас
555. Каган Леў Давыдавіч– 23. 7. 40– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
556. Каркотка Аляксандр Антонав.– 23. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
557. Казела Юзаф Юзаф.– 13. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
558. Келянскі Міхаіл Лейзерав.– 13. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
559. Капіцкі Эдвард Антонавіч– 13. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
560. Качкоўская Ядвіга Уладзіміраўна– 30. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Марыінск
561. Кавалеўскі Юльян Іванавіч– 27. 7. 40 г.– ....– ст. Архангельск
562. Карпіс Адэля Людвігаўна– 19. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Поцьма
563. Кузьмінскі Эдвард Іванавіч– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– г. Архангельск
564. Касцюковіч Уладзімір Піліпавіч– 26. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
565. Кандурысава Эмілія Віктараўна– 23. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Поцьма
566. Каханоўская Марыя Мацвееўна– 23. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Поцьма
567. Кляўс Рыгор Адмянавіч– 19. 7. 40 г.–3 гады ВТЛ– ст. Котлас
568. Каханоўскі Цэзар Юльянавіч– 23. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
569. Куну Станіслаў Пятровіч– 19. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
570. Качароўскі Войцах Восіпавіч– 23. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Поцьма
571. Качаргінскі Іцак Гіршавіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
572. Кокаш Іван Уладзіслававіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
573. Каапцэвіч Мар'ян Францавіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
574. Казловіч Міхаіл Уладзімірав.– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
575. Катовіч Іван Іванавіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
576. Кулёнак Іван Антонавіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
577. Кейзік Дзям'ян Кандратавіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
578. Кавалеўскі Іван Пятровіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
579. Каваленка Мікалай ...– 5. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
580. Кубіс Іосіф Паўлавіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
581. Капыта Віталь Пятровіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
582. Касулін Васіль Васільевіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
583. Кажанеўскі Лютыян Пятровіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
584. Кучараў Міхаіл Бенядыктавіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
585. Когаль Восіп Каралевіч– 9. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
586. Казіцкі Казімір Цімафеевіч– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
587. Клінгер Арон Абрамавіч– 10. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
588. Коцеў Альберт Адамавіч– 2. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
589. Коцел Іван Ігнатавіч– 2. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
590. Кукаловіч Людвіг ...– 13. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
591. Кавальчук Іван Андрэевіч– 9. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
592. Красоўскі Іван Пятровіч– 9. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
593. Касцянес Лявон Юльянавіч– 9. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
594. Кокаш Часлаў Вячаслававіч– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
595. Коц Антон Якубавіч– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
596. Кашкавяк Станіслаў Іваавіч– 13. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
597. Крывец Пётр Адамавіч– 5. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
598. Кузіковіч Пётр Адамавіч– 2. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст.Котлас
599. Квяткоўскі Павел Паўлавіч– 9. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
600. Круповіч Ян Іёсіпавіч– 5. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
601. Крыжаноўскі Ян Вітольдавіч– 5. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
602. Корвік Станіслаў Паўлавіч– 9. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
603. Кастраўковіч Іёсіп Іванавіч– 5. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас

*Працяг будзе.*

# Наркаману - па "баяну"

*Заканчэнне.*

*Пачатак на 1-й стар.*

веды грамадству. Бо наркамана, які колецца, перакanаць, а значыць дапамагчы яму, амаль немагчыма. Працаваць трэба з яго асяроддзем.

**<u>— У нас, хочам мы таго ці не, некалі з'явяцца ВІЧ-інфіцыраваныя. Хаця пакуль такія выпадкі ў рэгіёне нам невядомыя. Ці не выкліча гэта шок!</u>**

– Калі і выкліча, то на невялікі адрэзак часу. За апошнія месяцы адкуль тут толькі ні былі журналісты: з ЗША, Германіі, Галандыі, Швецыі, Канады, Расіі. Аб Светлагорску даведаліся ўсе. І ўсе перакаnаліся, што шлях, якім ідуць мясцовыя ўлады, у нас абраны правільна. Згадзіся, усё магло быць інакш, па-савецку. Можна было проста ўсё замаўчаць.

## Пажары

# І дзеці гінуць

*МАЛАДЗЕЧНА. 4 студзеня ў складскім памяшканні фірменнага магазіна "Чарадзейка" фабрыкі музычных інструментаў узнік пажар.*

Прадаўшчыца, якая ў гэты перадвыхадны дзень абслугоўвала пакупнікоў у гандлёвым пакоі, пачула пах гару не адразу. Полымя паспела ахапіць мэблю, прамысловыя тавары, што знаходзіліся на складзе. З-за дыму эвакуацыю з другога паверха прыйшлося праводзіць па прыстаўной пажарнай лесвіцы.

Прычынай ўзгарання паслужыў, хутчэй за ўсё, абагравальны прыбор (ацяпленне на фабрыцы адключана). Нядаўняя ж рэвізія недахопаў не выявіла. Дарэчы, памяшканні фабрыкі гараць ужо каторы раз.

*МАЛАДЗЕЧНА. Маладая жанчына, пакінуўшы ў пакоі інтэрната па вуліцы імя Ф. Скарыны двух дзяцей, пабегла ў магазін.*

Малыя знайшлі запалкі: загарэўся ложак, успыхнулі шпалеры. Пакой выратавалі, а вось дзеці (аднаму 4, другому 7)– задыхнуліся.

*Аддзел інфармацыі.*

*ВІЛЕЙКА. Загарэлася кватэра Андрэя Гамазінава.*

Як потым высветлілася, з-за няспраўнасці сістэмы ацяплення (сапсаваўся кацёл). Гаспадар ваяваў з полымем і, хутчэй за ўсё, прайграў бы паядынак. Ледзь жывога яго выцягнуў з полымя старшы сяржант ВПЧ Ігар Альшук.

Дваццацівасьмігадовы пажарны ішоў у госці, цягнуў на санках сына. Убачыўшы небяспеку, пакінуў хлопчыка на вуліцы і ўскочыў ў хату. На Гамазінаве гарэла адзенне. Аказаўшы дапамогу ахвяры, Ігар выклікаў пажарных.

Гаспадар кватэры атрымаў моцныя апёкі. Энерганагляд, у чыім ведамстве дом, абяцаў узнагародзіць старшага сяржанта.

*Алена АЛЬФЕР.*

# Два разы—няшмат, тры—нятанна

*АСТРАВЕЦ. У жылых дамах тут гарачую ваду падаюць толькі два разы на тыдзень— пятніцу і суботу. У пятніцу большасць гаспадынь працуе, таму, каб памыць адзенне, у іх застаецца толькі адзін дзень. А гэта стварае шмат нязручнасцей, нават калі бялізну мыць "Арыелем" ці "Тайдам". Вось і запрапанавалі яны ў аб'яднанні жыллёва-камунальнай гаспадаркі зрабіць падачу гарачай вады тры разы.*

Як сказаў начальнік аб'яднання Станіслаў Пятроўскі, цяперашняе размеркаванне вады звязана з абмежаваннем падачы газу, а таксама з неплацяжамі. Падача яе менавіта ў гэтыя дні абумоўлена цэнтралізаванай падачай вады на лазню– і адначасова насельніцтву. Калі падаваць і ў чацвер ці нядзелю, тады ўзрасце і плата.

Выбар за гаспадынямі.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Здарэнні

# Смерць у рэстаране

*АСТРАВЕЦ. У райцэнтры штосьці канкурэнтаздольнае ў "плане культурнага адпачынку" знайсці цяжка. Вось і імкнецца народ у выхадныя і святы "адцягнуцца" у рэстаране і г. д. Праўда, не заўсёды падобныя паходы заканчваюцца паспяхова.*

Адной з раніц у гардэробе рэстарана "Вясёлка" прыбіральшчыца знайшла труп. Як затым высветлілася, ім аказаўся жыхар Астравеччыны. Прычынай смерці паслужылі ўласныя ваніты, якімі той захлынуўся. Відавочна, што падвяла хлопца мера.

*Маркел АНДРЭЙЧЫК.*

# Хто каго пакрыўдзіў?

*АШМЯНЫ. У вёсцы Паляны здарыўся жудасны выпадак. У хаце знойдзены труп гаспадыні, а ў хляве рассечаны гаспадар.*

Відавочна, адбылося наступнае: у хаце муж з жонкай "святкавалі". Калі меркаваць па колькасці бутэлек, імі выпіта 2,5 літра. Хто каго першым пакрыўдзіў– невядома. Жонка пасекла мужа, расчляніла на часткі і кінула іх свінням. Сама не вытрымала нагрузкі і ад выпітага памерла. Памерлая была старэйшая за мужа на 10 гадоў і двойчы дагэтуль выходзіла замуж. Адзін муж павесіўся, другі– памёр.

*Аддзел інфармацыі.*

# Куды ты, "Светлый путь"?

*СМАРГОНЬ. Колькі год таму ў калгасе "Светлый путь" былі пабудаваны дамы для перасяленцаў з забруджанай радыенуклідамі зоны.*

Атрымаў там кватэру ў адным з дамоў і Рыгор Бажанок, які здаў дзяржаве сваё жыллё ў Хойніках. Вясной 1995-га ён вырашыў прыватызаваць сваю кватэру, карыстаючыся льготамі. Дзеля гэтага падаў адпаведную заяву ў праўленне калгаса, якому дамы былі перададзены дзяржавай, каб забяспечыць эксплуатацыю (не ва ўласнасць!).

Законам адведзены 2-месячны тэрмін для разгляду такіх заяў. Але толькі праз 4 месяцы, пасля дадатковых вусных зваротаў Бажанка ў праўленне калгаса, заява была разгледжана і сход упаўнаважаных беспадстаўна адмовіў ў прыватызацыі.

Далейшыя падзеі паказалі, што кіраўніцтва калгаса сапраўды лічыць свой "Светлый путь" шляхам у светлую будучыню, калі інтарэсы асобнага чалавека лічацца нічога не вартымі.

Двойчы Р. Бажанок звяртаўся ў Смаргонскі райвыканком. Адзін з намеснікаў, а потым і старшыня паведамілі заяўніку і калгасу аб тым, што апошні не з'яўляецца гаспадаром дамоў, пабудаваных за дзяржаўныя сродкі. Таму абавязаны задаволіць заяву аб прыватызацыі. Тое самае рэкамендаваў і Дзяржкамчарнобыль.

Але ж антыправавую прынцыповасць калгаса, як кажуць, ні спыніць, ні стрымаць. Днямі Р. Бажанок атрымаў вынятку з пратакола чарговага сходу ўпаўнаважаных "Светлого пути". Рашэнне на гэты раз сфармулявана так: "Большинством голосов отказать".

Рыгор Мікалаевіч падаў заяву ў суд. Ён ставіць пытанне аб прымусе калгаса даць згоду на прыватызацыю кватэры і матэрыяльнай кампенсацыі маральнага ўрону.

*Алесь ДЗЕРГАЧОЎ.*

## Мы і "Камунальнік", ці "За" і "Супраць" ПРАЦЯГ ТЭМЫ

# Не плаціць?

*МАЛАДЗЕЧНА. Скаргаў на камунальныя службы дастаткова. Падышоў на аўтобусны прыпынак і распытаў маладзечанцаў. Амаль кожнаму было што сказаць адмоўнага па рабоце камунальнікаў.*

Апускаючы прозвішчы, даю толькі сціслыя заўвагі і пажаданні.

Вул.Ф. Скарыны, 3. Апошнія паверхі не ацяпляюцца. А калі даюць цяпло– батарэі ледзь цёплыя.

Вялікі Гасцінец, 76. Працякае дах. Вада трапляе ў кватэры. Былі выпадкі, калі падстаўлялі пад кроплі посуд.

Вул.Я. Купалы, 110. Ля дома ніхто не прыбірае. Людзі ходзяць па смецці. На ботах носяць яго і ў кватэру.

Вялікі Гасцінец, 77. У падвале заўсёды вада. У кватэрах на першым паверсе вільгаць. Жыхары ловяць пацукоў па 2 кілаграмы. Штогод робяць рамонт. Архітэктар сказаў, што не так, як трэба, ляжаць каналізацыйныя трубы.

Вялікі Гасцінец, 74"б". ЖЭУ №2 паўгода не магло звезці смецце ад дамоў 74"а", 74"б", 74"в", 72. На патрабаванні адказвалі аднолькава: няма машыны.

Вул.Вілейская, вул.Ф. Багушэвіча. Не вывозяць смецце.

Л. Талстога, 3. Няма дзе вытрасці дываны.

**ВІЛЕЙКА. Многа было да камунальнікаў і пытанняў. На некаторыя з іх адказвае дырэктар вілейскага ВА ЖКГ Аляксей АРЭНДАР.**

*— Чаму дарогі пасыпаюць соллю? Ад яе псуецца абутак.*

– Вуліцы пасыпаюць пясчана-саляной сумессю. Змяншаецца слізкасць. Выкарыстоўваць такую сумесь просіць ДАІ, бо соль раз'ядае лёд. Пясок жа здзімаецца ветрам. Эфекту амаль ніякага. Пра шкоднасць солі ведаем. Але лепшага пакуль ніхто не прапанаваў.

*— Выклікаем сантэхнікаў. А тыя патрабуюць грошы за рамонт. Ці законна гэта?*

– Што тычыцца прыватызаваных кватэр, паслугі платныя, акрамя аварыйных работ або замены сантэхнічнага абсталявання, калі выйшаў тэрмін карыстання. Прычым грошы даваць сантэхнікам не абавязкова. Зрабіце заказ. Прыйдзе майстар, складзе каштарыс. Можаце аплаціць па базнаяўнаму разліку. Рабочым пакажыце квітанцыю аб аплаце. У дзяржаўных кватэрах кватэраздымшчык аплачвае паслугі, калі сам пашкодзіў сантэхніку. Цэны немаленькія. Напрыклад, прачысціць каналізацыю каштуе 27 тысяч.

*— Якая тэмпература гарачай вады павінна быць у кватэрах?*

– На выхадзе з кацельні 100 градусаў, у спажыўца 70. У сувязі з недахопам паліва падтрымліваецца магчымая тэмпература.

*— Ці павінна домакіраўніцтва прыбіраць лесвічныя пляцоўкі?*

– Па інструкцыі ў штаце ЖЭУ ёсць адзінкі–"прыбіральшчыца лесвічных пляцовак". Іх рэкамендуюць набіраць, што зусім не абавязкова.

Мы не маем на мэце "падставіць" названых кіраўнікоў– праблемы ва ўсіх аднолькавыя. Але хто адкажа хаця б на некалькі пытанняў?

1. Падтрыманне "магчымай тэмпературы" нашых батарэй паравога ацяплення– гэта якая тэмпература? І чаму ў Маладзечне, да прыкладу, яна мусіць быць толькі 55 градусаў?

2. Грошы плаціць: за ацяпленне ці "магчымыя"?

3. Ёсць у ЖЭУ прыбіральшчыцы лесвічных пляцовак. Якіх набіраць "не абавязкова". Магчыма, і квартплату плаціць рэкамендуецца, але не абавязкова?

4. Калі ў кранах няма гарачай вады альбо яна толькі "памагчымасці цёплая", то плаціць па расцэнках альбо па жаданні?

5. Дзе службы, якія павінны добраўпарадкаваць тэрыторыю нашых двароў?

Ці не здаецца вам, шаноўныя кватэраздымшчыкі, што нашы грошы проста раскрадаюцца (паслугу аплачваем, але яе няма). І ці не думаеце вы, што для нармальнага кватэраздымшчыка выйсце адно– ці плаціць 30-40-50-...% тарыфу, ці наогул не плаціць?

*Васіль САВІЦКІ.*

